*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



**2017, № 9(19). Верасень**

## Піліп Шчарбакоў будаваў на Шчары шлюзы

Дзед сланімчанкі Марыі Ляцецкай Піліп Сяргеевіч Шчарбакоў у пачатку XX стагоддзя будаваў на Шчары шлюзы, а бацька Ілья Піліпавіч Шчарбакоў усё жыццё служыў псаломшчыкам у слонімскай Свята-Троіцкай царкве (цяпер — саборы).

Піліп Шчарбакоў родам быў з Расіі, з Разанскай губерні. Ён прыехаў на Слонімшчыну яшчэ маладым чалавекам у канцы XIX стагоддзя. На малой радзіме ў яго было цяжкае жыццё, ды і сям'я ў іх была вялікая. У Слонім яго паклікаў знаёмы інжынер, прапанаваў працу на будоўлі шлюзаў.

Шлюзы ў Слоніме будавалі на Шчары і на канале Агінскага для пропуску суднаў пры розным узроўні вады на шляху іх руху, якое складвалася са спецыяльных камер з брамамі. Судна заходзіла ў шлюз, шлюз закрываўся, узровень вады тады падымаўся і апускаўся. Адным словам, шлюз у судаходстве — гэта было спецыяльнае збудаванне для пад'ёму і апускання судоў з аднаго ўзроўню вады на другі. Вось такія шлюзы на Слонімшчыне ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў і будаваў Піліп Шчарбакоў.



***Будаўнікі шлюзаў на Слонімшчыне, пачатак XX ст.***

*Працяг на ст. 4-5.*

## Слонімшчына на выставе твораў Напалеона Орды ў Мінску

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ў Мінску ўжо два тыдні працуе выстава “Напалеон Орда. Ілюстраваная энцыклапедыя краіны”. Не дзіўна, што ўжо ў першыя дні там можна было пабачыць слонімцаў. І найперш іх цікавілі тры творы знакамітага мастака, якія былі створаны на Слонімшчыне. Магчымасць іх пабачыць рэдкая — малюнкі і акварэлі былі прывезены з кракаўскага музея.

На іх бачым палац графа Пуслоўскага ў Альбярціне, жыровіцкія цэрквы і капліцу-пахавальню Ордаў у Дзеравянчыцах.

*Працяг на ст. 11.*



***Палац Пуслоўскіх у Альбярціне***

ХРОНІКА

# Пачалося добраўпарадкаванне Малога канала Агінскага

У канцы жніўня ў Слоніме пачалося добраўпарадкаванне Малога канала Агінскага. У апошнія дзесяцігоддзі ён быў занядбаны. Аднак, дзякуючы намаганням грамадскага аб'яднання "СлонімКаналАгінскага", ёсць надзея, што канал набудзе новае, больш прывабнае аблічча. Плануецца, што каля яго, ад парку да Баранавіцкага моста, з'явіцца пешаходная дарожка і веларолерная траса.



# На яўрэйскіх могілках будуць шукаць магілы равінаў Вайнбергаў

Равін яўрэйскай абшчыны з Брэста Хаім Рабіновіч атрымаў вусны дазвол уладаў на правядзенне раскопак на месцы, дзе на яўрэйскіх могілках на Брэсцкай вуліцы ў Слоніме былі пахаваныя равіны Аўрам і Ісахар Вайнбергі. У пасляваенны час могілкі былі знішчаны, іх аднавілі ў пачатку 1990-х. Каб знайсці месца, дзе была магіла равінаў, давялося правесці даследчую працу — адшукалася фота гэтага раёна горада, зробленае ў 1944 годзе з нямецкага самалёта, а таксама стужка, зробленая ў 1929 годзе на кінакамеру. Плануецца выкарыстаць спецыяльную апаратуру. Як піша "Слонімскі веснік", пошукі мусяць быць завершаныя да 25 кастрычніка, але ў выпадку, калі будзе афіцыйны дазвол.




# З'явілася новая кніга пра Сынковіцкі храм

Выкладчык Мінскай духоўнай акадэміі протадыякан Павел Бубноў выдаў кнігу пра гісторыю і сучаснасць самага таямнічага храма Слонімскага краю — Сынковіцкага. Каштоўнасць выдання ў тым, што аўтар выкарыстаў шматлікія архіўныя дакументы, у тым ліку і невядомыя дагэтуль. Шмат увагі надаецца святарам, якія служылі ў прыходзе. Шкада толькі, што чарговая кніга пра Сынковіцкі храм выйшла на рускай мове.

Дарэчы, 16 верасня Праваслаўная царква адзначыла 610-я ўгодкі храма ў Сынковічах. Вернікаў было так шмат, што нямала людзей маліліся каля храма.




*Фота: minda.by*

# Новы крыж і памятны знак

З нагоды 750-годдзя Навагрудскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы ў канцы лістапада на Слонімшчыне пройдуць урачыстыя мерапрыемствы. Як інфармуе прэс-служба епархіі, на ўездзе ў горад з боку Баранавічаў з'явіцца крыж. А каля крамы "Лета" побач з Баранавіцкім мостам усталююць юбілейны памятны знак.

"Слонімскі край" можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/

# Пра Яўгена Валатоўскага і дакументы уніяцкіх кангрэгацый

Пра Яўгена Валатоўскага чуў даўно. Але сустрэцца з ім і пагутарыць так у жыцці і не пашчасціла. Калі я скончыў універсітэт, яго ўжо не было ў жывых. Ён памёр на 75-м годзе жыцця 7 лютага 1985 года ў Жыровічах, дзе і пахаваны на мясцовых могілках побач з жонкай Валянцінай Мікалаеўнай. А недалёка ад іх вечным сном спачывае яго бацька протаіерэй Васіль Валатоўскі (1878 — 1961).

Яўген Валатоўскі па тым часе быў вельмі адукаваным чалавекам. Добра ведаў рэлігію, гісторыю, найперш цікавіўся гісторыяй Жыровіцкага манастыра. Шмат гадоў ён быў вучоным сакратаром Жыровіцкай духоўнай семінарыі, а потым выкладчыкам Жыровіцкага тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі. У Львове Яўген Валатоўскі нават абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Жорж Санд. Але Другая сусветная вайна перашкодзіла яму атрымаць усе неабходныя дакументы па сваёй абароне. А потым ён “нікуды не лез”, жыў і працаваў у Жыровічах.

Яўген Валатоўскі сябраваў і перапісваўся з многімі вучонымі з былога Савецкага Саюза, а таксама з Польшчы і Літвы. У добрых адносінах наш зямляк быў і з доктарам філалагічных навук Адамам Мальдзісам. Хоць рэдка, але яны сустракаліся, гутарылі. Валатоўскі не раз паказваў яму рэдкія выданні XVIII-XIX стагоддзяў са сваёй асабістай бібліятэкі. Дзе ўсё зараз — невядома. У Мінскай вобласці жыве дачка Валатоўскага Таццяна Яўгенаўна Лазоўская. Некалькі разоў тэлефанаваў ёй, прасіў даць хоць фотаздымак бацькі. Яна абяцала, але так пакуль сустрэцца з ёй не атрымалася.

Нядаўна былы выкладчык гісторыі з Жыровічаў Ігар Падгарадзецкі, які цяпер жыве ў Германіі, прыгадаў Яўгена Валатоўскага і адзін цікавы факт з яго біяграфіі. Валатоўскі добра ведаў гісторыю Жыровічаў, лёс усіх жыровіцкіх скарбаў. Ён усё жыццё даследаваў і шукаў, дзе ў мурах Крыжаўзвіжанскай царквы ў Жыровічах знаходзяцца схаваныя дакументы кангрэгацый Базыльянскага ордэна, якія адбываліся ў Жыровіцкім манастыры ў XVII стагоддзі. Яўген Валатоўскі нават пісаў у Маскву, каб яму дазволілі пашукаць дакументы кангрэгацый. Але, атрымаўшы ліст ад Валатоўскага, з Масквы ў Жыровічы прыехаў Уладзімір Кураедаў, які з 1960 па 1965 гады быў старшынёй Савета па справах Рускай праваслаўнай царквы пры Савеце міністраў СССР, а потым з 1965 да 1984 гады працаваў старшынёй Савета па справах






*Помнік на магіле Яўгена Валатоўскага на Жыровіцкіх сельскіх могілках.*

рэлігій пры Савеце міністраў СССР, генерал-лейтэнант КДБ. Кураедаў у Жыровічах сустрэўся з Валатоўскім і груба папярэдзіў, каб ён нават і не думаў пра гэтыя дакументы і назаўсёды забыўся, дзе яны ляжаць.

У 1970-х гадах з Яўгенам Валатоўскім у Жыровічах сустракаўся прафесар Адам Мальдзіс, які пытаўся ў яго пра старажытныя жыровіцкія рукапісы і кнігі. Напалоханы візітам Кураедава, спадар Валатоўскі адказаў, што ніколі іх не бачыў у семінарскай бібліятэцы. “Пасля закрыцця семінарыі ўсе кнігі былі перавезены ў Загорск, — сказаў Валатоўскі і дадаў. — Праўда, кажуць, што ў часы, калі пачалася ліквідацыя уніі, манахі дзесьці ў падвале замуравалі сваю бібліятэку, архіў і скарбніцу…”. Дзе закапалі жыровіцкія скарбы, Яўген Валатоўскі не сказаў, хаця ён ведаў, але баяўся паказаць і расказаць. І дакументы уніяцкіх кангрэгацый, і кнігі, і розныя уніяцкія рэчы — гэта нацыянальныя скарбы Беларусі. І многія з іх па-ранейшаму захоўваюцца ў жыровіцкіх мурах.

Дарэчы, бібліятэцы акадэміі навук у Пецярбургу ў 1908 годзе быў перададзены збор рукапісаў, актаў і старых кніг, якія вывез з Жыровіцкага і іншых манастыроў Беларусі епіскап Павел Дабрахотаў, былы выкладчык уніяцкай (1837 — 1839), а затым праваслаўнай (1839 — 1845) духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Самае каштоўнае ў тых зборах — 3000 дакументаў (з іх больш за 30 на пергаменце), якія былі сшытыя ў 50 кніг. І ўсе яны прысвечаныя гісторыі Тураўшчыны і Піншчыны XVI-XVIII стагоддзяў.

●*Сяргей Чыгрын*

НАШЫ ЗЕМЛЯКІ

# Піліп Шчарбакоў будаваў на Шчары шлюзы

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

У Слонім Шчарбакоў прыехаў са сваёй маладой жонкай. Яна нідзе не працавала, была хатняй гаспадыняй, а ён кіраваў будаўніцтвам шлюзаў. Відаць, заробак у яго быў добры. Ён нават з Расіі прывозіў золата, каб разлічвацца з рабочымі. Адзін раз выйшаў з цягніка ў Слоніме і забыўся карзіну ў вагоне. Потым стаў крычаць: “Хлопцы, падайце мне карзіну!..”. Адзін чалавек узяў цяжкую карзіну і вынес з вагона, пытаючыся: “Што вы тут везяце? Цэглы?”. А ён адказвае: “Золата!”. Чалавек моцна здзівіўся. Хаця насамрэч там былі залатыя манеты — заробак для слонімскіх будаўнікоў шлюзаў.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам Піліпа Шчарбакова ў Слоніме быў пабудаваны былы Народны дом, на месцы якога зараз знаходзіцца драматычны тэатр. Гэты дом яго брыгада ўзвяла ў 1900 годзе, Шчарбакову тады было 30 гадоў. Акрамя гэтага ён пабудаваў і шэраг іншых будынкаў, у тым ліку прыгожы будынак на вуліцы Пушкіна, дзе цяпер знаходзіцца падатковая інспекцыя.

У Дубках каля Дзеравянчыцаў Піліп Шчарбакоў меў 10 гектараў зямлі. І там быў у яго невялікі фальварак. Дарэчы, калі Шчарбакоў са сваёй жонкай прыехалі ў Слонім, у іх нарадзіліся двое дзяцей. Пасля нараджэння другога дзіцяці жанчына памерла ад родаў. Помнік ёй захаваўся на старых могілках на Віленскай вуліцы ў Слоніме. Тады Шчарбакоў ажаніўся на сваёй служанцы Марыі Жукоўскай з вёскі Ашнаравічы. У іх нарадзілася трое дзяцей: Ілья Піліпавіч, 1902 года нараджэння, Яўгенія Піліпаўна — дачка, Мікалай Піліпавіч — малодшы сын. Жылі яны ў Слоніме на Рыбацкай вуліцы, там быў у іх свой дом. Жэня і Коля скончылі Віленскі універсітэт. А фальварак у Дубках знішчылі саветы. Як толькі яны прыйшлі ў 1939 годзе, то там зрабілі аэрадром.




*Піліп Шчарбакоў*

Піліп Шчарбакоў пражыў 92 гады. Цікавы ён быў чалавек. Ведаў некалькі моў. Да самай смерці чытаў шмат газет і часопісаў, нават выпісваў на нямецкай мове “Берлінскую газету”. Яго выклікалі аднойчы ў КДБ і пыталіся: навошта ён выпісвае гэтую газету. Стары слонімец адказаў: “Я ведаю нямецкую мову і што хачу, тое і чытаю”.

Сын Піліпа Шчарбакова Ілья Шчарбакоў спачатку працаваў каморнікам, а потым служыў у польскім войску. А калі ён вярнуўся з войска, то ў Слоніме ўжо былі немцы. І пры немцах ён трапіў у Свята-Троіцкую царкву. Спачатку Ілья Шчарбакоў працаваў у царкве рэгентам, а потым усё жыццё — псаломшчыкам. Настаяцелям царквы тады быў айцец Міхаіл Славінскі — бацька нашага былога слонімскага доктара Ірыны Міхайлаўны Булыга, якой ужо таксама, на жаль, няма на гэтым свеце. Пасля вайны нялёгкі час быў для праваслаўных вернікаў і для храмаў. Аднойчы айцец Міхаіл, відаць не па сваёй волі, адмовіўся быць настаяцелям Свята-Троіцкай царквы. І на яго месца прыйшоў айцец Міхаіл Кашэня. Але гэта зусім іншая гісторыя.

●***Сяргей Чыгрын***



*Будуюцца шлюзы на Шчары ў раёне Разанаўшчыны*




*Шлюзы каля вёскі Камлявічы*



*Марыя Жукоўская — другая жонка Піліпа Шчарбакова*



*Піліп Шчарбакоў з унукам у Слоніме*



*Піліп Шчарбакоў (крайні справа) у Разанаўшчыне, 1930-я гады.*




*Будуюцца шлюзы на Шчары ў раёне Камлявічаў*

# Папка Рудольфа Пастухова

15 верасня былі 20-я ўгодкі з дня смерці Рудольфа Пастухова (1936 — 1997), слонімскага паэта і грамадскага дзеяча. З ім я пазнаёміўся восенню 1995-га. Неяк сядзелі ў яго кватэры, размаўлялі. Раптам Пастухоў дастаў з шафы папку і перадаў мне. "Захавай", — сказаў ён. Гэта была невялікая частка яго архіву разам з матэрыяламі слонімскай арганізацыі БНФ "Адраджэнне", якую ён пэўны час узначальваў.



*Рудольф Пастухоў*

Цяпер, праз два дзесяцігоддзі, вырашыў пазнаёміць чытачоў "СК" са зместам гэтай папкі. На яе вокладку наклеены вымпел з выявай гербу Слоніма, над ім ад рукі напісаны год яго надання нашаму гораду — 1591. У папцы акуратна падшытыя выразкі з раённай газеты. У нумары "Слонімскага весніка" ад 14 верасня 1991 года Рудольф Пастухоў, дэпутат гарадскога савета, пісаў: "Яшчэ многія слонімцы, відаць, не асэнсавалі тыя пераўтварэнні, якія адбыліся ў Беларусі за апошні месяц. Узаконены суверэнітэт рэспублікі, а гэта значыць, што цяпер Беларусь стала самастойнай незалежнай дзяржавай… Новая дзяржава павінна і жыць па-новаму…". Зацемка тая называлася "Мая думка". Пастухоў, як кажуць, трымаў руку на пульсе падзей, сачыў за ўсім, што адбываецца ў краіне. А час у пачатку 1990-х быў няпросты, але цікавы. Людзі паступова пачыналі ўсведамляць сябе ў новай сістэме каардынат, як грамадзяне незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Ёсць і дакументы слонімскай Рады БНФ "Адраджэнне": незапоўненыя ўліковая картка сябра і даведка аб Радзе, рэзалюцыі мітынгаў, якія адбыліся ў горадзе 1 верасня і 15 кастрычніка 1989 года (іх вёў настаўнік Мікалай Ракевіч), рукапісныя рускамоўныя ўлёткі, заява нейкага слонімца ад 8 лістапада 1989-га аб выхадзе з руху. Цікавая падборка дакументаў прысвечана ўстаноўцы восенню 1991-га фронтаўцамі, праваслаўнымі вернікамі крыжа на месцы разбуранага савецкімі ўладамі храма. Слонімскі выканкам 25 кастрычніка 1991-га вырашыў яго знесці, як усталяваны без дазволу, ды прапанаваў праваслаўнай абшчыне Свята-Троіцкай царквы прадставіць праект памятнага знаку на тым месцы. Аднак рашэнне аб зносе




выканана не было, крыж і цяпер стаіць каля адноўленага сабора. У папцы падшыты праекты крыжа і каментар да іх, напісаны Рудольфам Пастуховым. Атрымліваецца, што той сумесны праект БНФ "Адраджэнне" і Праваслаўнай царквы грунтоўна рыхтаваўся. Захаваліся некалькі фотаздымкаў, якія асвятляюць дзейнасць у Слоніме руху. Сярод папер ёсць і кур'ёзны надпіс. На канверце, які прыйшоў з мінскага офісу БНФ, напісана: "Пастухову Рыгору"…

Таксама ў папцы падшытыя некалькі вершаў паэта, яго заява ў дзяржаўную бяспеку ў 1988 годзе аб высвятленні радаводу. Пастухоў не ведаў, кім былі яго бацькі, рэпрэсаваныя, як "ворагі народу". Ёсць заява ў Народны суд ад 1990 года. Пастухоў падчас выступлення ў гарсавеце распавёў пра пачутую ў краме размову, якая яго вельмі ўразіла. У ёй, між іншым, згадаў, што "сам мэр… вёз праз мяжу золата ў каністры з бензінам". Тагачасны старшыня гарвыканкама падаў у суд. У папцы акуратна падшытыя тры судовыя позвы, якія атрымаў Рудольф Пастухоў.

●*Сяргей Ёрш*




***На ніжнім здымку слонімскія фронтаўцы каля будынка райвыканкама, 1991 год. Рудольф Пастухоў стаіць трэці злева.***

дал. Пастухову

СЛОНІМСКІ
ГАРАДСКІ САВЕТ
НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ
ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ
**ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**

СЛОНИМСКИЙ
ГОРОДСКОЙ СОВЕТ
НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ
ГРОДНЕНСКОЙ ОБЛАСТИ
**ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ**

**РЕШЕНИЕ**

От 25.10.91 № 300

г. Слоним

Об установлении памятного знака в сквере по улице Пушкина

Исполнительный комитет Слонимского городского Совета народных депутатов РЕШИЛ:

1. Согласиться с предложением православной общины Свято-Троицкой церкви города Слонима об установлении памятного знака на месте бывшего Преображенского православного собора.

2. Поручить православной общине (председатель Гордун С.А.) города Слонима разработать и представить проект памятного знака с детальной привязкой в существующем сквере.

3. До разработки и согласования проекта памятного знака православной общине запретить проведение всех работ на территории сквера.

Предложить председателю общины Гордуну С.А. убрать до 1 ноября 1991 года с территории сквера изготовленный металлический крест.

4. Принять к сведению, что изготовление и установка памятного знака и благоустройство прилегающей территории будут произведены за счет и силами православной общины города.

Председатель городского Совета — В.В.Чёрный

За управляющего делами-член исполкома — Л.Н.Гаркавая

Исполком Слонимского горсовета народных депутатов Гродненской области. Общий отдел



*Людзі ўсталёўваюць крыж на месцы, дзе стаяў праваслаўны сабор у Слоніме. Першы справа — франтавец Васіль Струпавец, 1991 г.*

В Комитет государственной безопасности
от гр-на Пастухова Рудольфа Алексеевича,
проживающего по адресу: БССР, Гродненская
обл., г. Слоним, ул. [redacted]

ЗАЯВЛЕНИЕ

Помогите пожалуйста, установить мою родословную.
К данному заявлению прилагаю копии свидетельств о рождении и об усыновлении. И поясняю, что в 1947 году, от соседей по ул. Александровской города Рыбинска, мне стало известно, что моими кровными родите... были враги народа.

Р... ...есили или утопили об этом никто ничего не знал. ... ...рилось и шепотом, и громко. ...ала однозначно:

—По...

НАРОДНЫЙ КОМИССАРИАТ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ СССР

Повторное

Отдел актов гражданского состояния

Свидетельство об усыновлении № 4

Гр. Малиновский Рудольф Николаевич

родившийся(аяся) в 193.. го... числа 28 месяца усыновлен(а)

с присвоением ему фамилии Пастухов

отчества Алексеевич

СВИДЕТЕЛЬСТВО О РОЖДЕНИИ

Гр. Пастухов (фамилия) Рудольф Алексеевич (имя, отчество)

родился (лась) 28/IX 1936 г. (прописью и цифрами год, месяц и число) Двадцать восьмого сентября тысяча девятьсот тридцать шестого года

Место рождения ребенка: город, селение г. Рыбинск

район Ярославская область, край, республика РСФСР

о чем в книге записей актов гражданского состояния о рождении 1936 года октября месяца 26 числа произведена соответствующая запись за № 2747

Повторное

РОДИТЕЛИ:

Отец (фамилия) (имя, отчество)

национальность

Мать Пастухова (фамилия) Вера Александровна (имя, отчество)

национальность русская

Место регистрации Горбюро (наименование бюро ЗАГС) г. Рыбинска Ярославской обл.

Дата выдачи 13 сентября 1960

М. П.

I-ТЧ № 139090

Заведующий Бюро записей актов гражданского состояния Быкова

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Бюро прапаганды мастацкай літаратуры

220034 Мінск, Фрунзе, 5. Рахунак 700125 у Партызанскім аддзяленні жилсоцбанка г. Мінска Тэл. 36-12,57, 36-40-57 (бух.)

ПУЦЁЎКА №

Прозвішча пісьменніка Пастухаў Рудольф Алексеевіч

Тэма: Воля; Адказнасць, Згода.

Назва установы Літаратурна-музычная гасцёўная

Адрас

Дата і час выступлення 21 красавіка 1988 г.

Нумар разліковага рахунка арганізацыі У. 700125

Дырэктар бюро прапаганды [подпіс]

# Сотні нумароў слонімскай даваеннай газеты сталі даступныя ў інтэрнэце

На сайце polona.pl сёлета былі змешчаны больш за 350 нумароў газеты (каля 75% ад агульнай колькасці нумароў, якія пабачылі свет) “Słonimer Wort” (“Слонімскае слова”). Яна рэгулярна выходзіла ў нашым горадзе ў 1929-1939 гадах. Гэта быў тыднёвік мясцовай арганізацыі сіяністаў. Пісаў ён шмат пра гарадскія справы, пра розныя палітычныя скандалы, пра міжнародныя падзеі. На старонках газеты з’яўляліся гістарычныя матэрыялы, прысвечаныя Слоніму і слонімскім яўрэям.

Безумоўна, важна гэтыя нумары пераглядзець. У іх — хроніка жыцця Слонімшчыны за цэлае дзесяцігоддзе. Аднак праблема ў тым, што выдавалася газета на ідыш… Будзем спадзявацца, што знойдзецца спецыяліст, які зможа зрабіць агляд публікацый “Słonimer Wort”.

●*СЁ*


№ 33 (289)

SŁONIMER WORT

Zespół Reduty

Moralność Pani Dulskiej

TARZAN NIEUSTRASZONY

CZŁOWIEK MAŁPA




סלאנימער
וואָרט


Redakcja i Administracja
„Słonimer Wort“
SŁONIM
Skrz. poczt. ... K. O. 702.103


Z powodu śmierci B. P.
OJCA
BASI OSAKOWSKIEJ
składają wyrazy głębokiego współczucia
Wychowczyni ora zuczniowie i uczenice kl. I A.

LILIPUT

Red.wyd. M. Jejrusz — wydawca Org. Sjonistyczna


№ 23 (423)

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem
SŁONIMER WORT

Słonim, skrz. pocz. 40

Słonim, dn. 24 czerwca 1938 r.

# Слонімшчына на выставе твораў Напалеона Орды ў Мінску


*Напалеон Орда*

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі з 16 верасня працуе выстава "Напалеон Орда. Ілюстраваная энцыклапедыя краіны". Яна не можа не зацікавіць слонімцаў, якія шануюць гісторыю і культуру сваёй радзімы.

Напалеон Орда (1807 — 1883) — ураджэнец Беларусі, вядомы мастак, літаратар, музыкант. Яго жыццё было насычанае падзеямі: выключэнне з універсітэта за сяброўства ў тайным студэнцкім таварыстве, арышт, удзел у антымаскоўскім паўстанні, эміграцыя, вяртанне на радзіму па амністыі, зноў арышт па падазрэнні ў дапамозе паўстанцам, пагроза высылкі ў Расію... Орда шмат падарожнічаў па Беларусі і маляваў храмы, палацы, замкі, панарамы гарадоў. Не абмінуў ён і Слонімшчыну.

Безумоўна, малюнкі гэтыя вядомыя. Яны шмат разоў публікаваліся. Але ў Беларусі няма арыгіналаў. Значная іх частка (каля тысячы) захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве. 110 малюнкаў і акварэляў з гэтых збораў і прывезлі да пачатку снежня ў нашу краіну. Напалеон Орда іх маляваў менавіта ў Беларусі. Уласна да Слонімшчыны адносяцца толькі тры: "Альбярцін. Палац Пуслоўскіх. Від з боку сажалкі. 1877 г.", "Жыровічы. Богаяўленская і Крыжаўзвіжанская цэрквы. 1876 г." і "Дзеравянчыцы. Капліца-пахавальня Ордаў. 1860-1877 гг." (рыма-каталіцкая капліца ў вёсцы Бракава). Акрамя іх вядомыя яшчэ некалькі малюнкаў мастака зробленыя на Слонімшчыне, але на згаданую выставу яны не трапілі.

●***Арцём Салейка***








СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# У Слоніме 100 гадоў таму

Восенню 2017 года на інтэрнэт-аукцыёне на сайце ebay.de з’явілася некалькі здымкаў, зробленых у Слоніме 100 гадоў таму. У той час наш горад быў пад нямецкай акупацыяй. Нямецкія вайскоўцы здымалі адзін аднаго як на гарадскіх вуліцах, так і ў памяшканнях падчас адзначэння нейкіх святаў. На першым здымку, зробленым 22 лістапада 1917-га, бачым, як вайскоўцы п’юць… гарбату разам з жанчынамі, найхутчэй мясцовымі жыхаркамі. На сцяне вісяць два малюнкі з краявідамі, намаляваныя, відаць, самімі вайскоўцамі.

На другім здымку бачым групу нямецкіх вайскоўцаў з двума мядсёстрамі каля шпіталя ў Слоніме. У кадр патрапілі і слонімскія хлопчыкі, яны стаяць справа каля акна.

На трэцім здымку група нямецкіх салдат у Слоніме каля мінамёта. Кожны з іх мае супрацьгаз. Калі здымак сапраўды зроблены 15 траўня 1917-га ў нашым горадзе, як пазначана на абароце, дык верагодна салдаты праходзілі навучанні — фронт быў далёка.

Радуе, што здымкі, зробленыя падчас Першай сусветнай вайны ў Слоніме, працягваюць з’яўляцца на інтэрнэт-аукцыёнах. Не ўсе яны для нас цікавыя. Але часам трапляюцца сапраўдныя скарбы.

●*СЁ*








“Слонімскі край” можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/

# Знойдзена магіла Хрызастома Татура

У жніўні 2017-га на Ружанскіх могілках у Слоніме ўдалося адшукаць магілу слонімскага павятовага маршалка Хрызастома-Лаўрэнція-Дамініка Іванавіча Татура. Знаходзіцца яна ў старой частцы могілак, дзе захаваліся ці не самыя старажытныя пахаванні. Пліта амаль цалкам была пад дзірваном. Калі яе ачысціў, можна было прачытаць польскамоўны надпіс, які сведчыў, што тут ляжаць астанкі св. пам. Хрызастома Татура, які пражыў 64 гады і памёр 11 красавіка 1876 года.

Дзіўна, але пра Хрызастома Татура мы ведаем вельмі мала. На яго асобу звярнулі ўвагу, дзякуючы асобе яго сына, вядомага беларускага археолага і калекцыянера Генрыха Татура (1846 — 1907). Апошні нарадзіўся ў Слоніме*, але жыў у Мінску і на Міншчыне, стварыў знакаміты прыватны гістарычны музей. Былі публікацыі, у якіх Генрыха памылкова называлі кіраўніком слонімскага дваранства. Пазней высветлілася, што пераблыталі з бацькам.

Пра Хрызастома Татура было вядома, што ён нарадзіўся ў 1811 годзе. Дата смерці заставалася невядомая. Цяпер можна смела пісаць у разнастайных даведніках яго гады жыцця: 1811 — 1876. Са знойдзенага ў Вільні ліста маці Генрыха Татура было вядома, што яна хацела быць пахаванай каля мужа. Каля магілы Хрызастома Татура ёсць некалькі пахаванняў іншых Татураў, відавочна, яго сваякоў. На жаль, імя яго жонкі невядомае, ёсць толькі ініцыял — "А". Таму пакуль дакладна немагчыма сказаць, ці пахаваная яна там. Побач ёсць магіла Антаніны Татур, якая памерла ў 1901 годзе ва



ўзросце 70 гадоў. Калі гэта маці Генрыха, то яна яго нарадзіла ў 15-гадовым узросце. Побач ёсць пахаванне Ганны Татур,



магчыма, сястры Генрыха Татура. У любым выпадку, каб дакладна ўсё высветліць, неабходна правесці архіўныя пошукі.

Адзінае, у чым няма сумневаў — мы маем пахаванне аднаго з кіраўнікоў Слонімскага павета ў сярэдзіне XIX стагоддзя, бацькі Генрыха Татура. Павятовага маршалка ("уездного предводителя дворянства") ў Гродзенскай губерні прызначаў сам губернатар. Фактычна гэта быў кіраўнік павету, паколькі ў яго былі каардынацыйныя функцыі, і ён кантраляваў дзейнасць розных мясцовых устаноў, узначальваў іх. Да таго ж быў кіраўніком мясцовага дваранства, прадстаўляў яго інтарэсы, вырашаў праблемы, быў старшынёй павятовага дваранскага сходу. За сітуацыю ў павеце маршалак трымаў справаздачу перад губернатарам. Дарэчы, за сваю працу на гэтай пасадзе ён нічога не атрымліваў ад дзяржавы.

Ад магілы Хрызастома Татура выдатна бачны ўвесь Слонім. Можна ўявіць, што тут калісьці стаяў сам Генрых, які задуменна глядзеў на горад, у якім ён пабачыў свет і правёў сваё дзяцінства.

Магчыма, ён спадзяваўся, што і яго косці лягуць у родную слонімскую зямлю, побач з магіламі бацькоў. Але выйшла інакш…

● ***Сяргей Ёрш***

**Пра яго гл.: Гурскі Г. Генрык Татур — археолаг і краязнаўца // Слонімскі край, 2016, № 8. Верасень. С. 16.*

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Ліст з Клімавічаў у рэдакцыю віленскай беларускай газеты “Беларуская крыніца”

У зборах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва ў Мінску захоўваецца ліст селяніна з вёскі Клімавічы Слонімскага павета (цяпер — Галынкаўскі сельсавет Зельвенскага раёна), дасланы ў рэдакцыю віленскай беларускай газеты “Беларуская крыніца”. Ён падпісаны псеўданімам “Пастаронны”. На жаль, даты няма (яе адсутнасць абцяжарвае высвятленне пытання, ці быў гэты ліст апублікаваны, ці не). Верагодна, гэта пачатак 1930-х гадоў. Аўтар уздымае важную тэму — адносіны ў той час беларускага сялянства і дробных мясцовых прадстаўнікоў польскай адміністрацыі. Як бачым, у Клімавічах людзі стараліся прыстасавацца ды шанавалі сваіх “паночкаў”. Але крыўды і злосць назапашваліся.

Змяшчаем ліст вяскоўца са значнымі праўкамі.

●*Сяргей Ёрш*



***Польскія леснікі. Фота: czerniejewo.poznan.lasy.gov.pl***

Вёска Клімавічы Слонімск[а]га павету знаходзіцца ў вельмі дрэнных абставінах, дзеля таго, што пашыраецца п’янства. Повадам да гэтага ёсць тое, што клімаўцы лічаць гонарам пазнаёміцца з якім-небудзь урадоўцам*, а да яго падысці то трэба з гарэлачкай. Бо клімаўцы так разманулі** сваіх урадоўцаў, што яны на мінуту не могуць развітацца з сваім мілым прыяцелем “алкаголем”. Дзе якое вяселле, хрысціны, а часта такія балы ў гонар урадоўцаў, як ляснік Івановіч, солтыс Пенцяк, дзяк Ламека, а нават і хлапцы, калі ідуць у сваты да начальнікавай дачкі, то бяруць начальніка за свата, каб лепш ішла справа.

І лясніка так высока паставілі, што ўсе мусяць яму падначальвацца. А ён ужо не просіць, а проста распараджаецца. Папрызначаў сабе віцэ-леснікоў, як Клемас Грамадзкі, які пільнуе лесу ўночы і даносіць яму, дзе-хто папасе альбо прывязе палена дроў. І цяпер уся вёска адрабляе лесніку паншчыну: косяць, грабуць, малоцяць, дровы возяць і г. д.

Калі трэба паночку лесніку на кірмаш, то ён любому першаму клімаўцу кажа, каб той запрог каня і вёз яго на кірмаш, а там каб яшчэ паставіў бутэльку. Бяда таму, хто гэтага ўсяго не зробіць. Той не атрымае ні дроў, ні білета на пашу, словам згубіць усю ласку. Мала таго, дык яшчэ пратаколаў будзе, што ў таго і скуры не хопіць разлічыцца.

Дык вось, дарагія сябры, клімаўскі народ стаў такі пакорны, што калі ўбачыць лесніка, дык зараз жа здымае шапку і кланяецца яму ў пояс, нібы таму ж цару. А нядаўна гэты ляснік... Бо яшчэ ў 1928 годзе, калі клімаўцы павялі коні пасвіць, то Івановіч сабраў леснікоў з усяго лясніцтва, акружыў іх [вяскоўцаў] і загнаў да сябе дадому. А перапісаўшы ўсіх прозвішчы, падаў у суд, за што ўсе дасталі*** па 10 злотых кары. А за начлег ледзь не ўсе клімаўцы мелі ад двух тыдняў да двух месяцаў турмы. І чаму гэта беларускі народ такі дабрадушны, забыў усе свае крыўды, ці са страху, ці з нендзы?**** Дарагія сябры, прашу разабраць маё пісьмо і ацаніць клімаўцоў, змясціць у газету.

***Пастаронны***

**Чыноўнікам.*
***Разбэсцілі.*
****Атрымалі.*
*****З нястачы.*

67/81

Дык вот дарагія сябры клімаускі
народ стаў такі пакорны што
калі убачыць лесніка дык
зараз-жа здымае о шапку і кланя-
яцца е яму у поясе як слуга цар-
А ні даўна гэты лясьнік бо яще
у 1928 годзе калі клімаўцы павы-
лі коні пасвіць то Ивановіч
сабраў лясьнікоў з усяго лясніча-
ва акружыў іх і загнаў да сябе
да дому а напісаушы усех про-
віцца падаў у суд за што усе
дасталі па 10 злотых кары
а за нячлег чуць што ні
усе Клімаўцы мелі ад двох
тыдняў да двох месяцаў
турмы. И чаму гэта
Беларускі народ гэтд гэдык
дабрадушны забыў усе свае

66об.

а ён ужее ні просіць а просто распараджа-
ецца па мянаваў сабе віце-лясьнікоў як
Клемас Грамадзкі, каторы пільнуе лесу
у ночы і даносіць яму дзе хто
напасе альбо прывезе палено
дроў. И цяпер уся веска адрабляе
лясьніку паншчыну: косяць, грабуць,
малоцяць, дрова возяць і г. д.
Калі трэба паночку лясьніку на кір-
маш то ён любому пршказу
Клімаўцу кажа каб той запрог
каня і вез яго на кірмаш а там
яще каб паставіў бутэльку,
бяда таму хто гэтаго усяго ні
зробіць той ні дастане ні дроў
ні білета на пашу словам згубіць
усю ласку мало таго дык яще
пратакол буде што у таго
і шчуры ні хваціць аплаціцца.

67об.

крыўды ці са страху ні со з нен-
дзы? Дарагія Сябры прошу
разабраць мае пісьмо і апаліць
Клімаўцоў і запеўніць у газету.
Пастаронны.

66/83

Веска Кліповічі Слонімского повету.
знаходзіцца у вельмі дрэнных абставінах
дзеля таго што пашыраецца п'янство,
...дам да гэтаго есьць тое што клімоўцы
...зць гопарам пазнаёміцца з якім
...іх урадоўцам, а да яго падысці
...трэба з гарэлачкаю. Бо Клімаўцы
...г размануты сваіх урадоўцаў што
... на мінуту ні могуць растацца
...аім мілым прыяцялям
...агалям" дзе якое весеље, хрысціны
...што такія бағы пачесьць урадоўцаў
... лясьнік Ивановіч, солтус Пешчак,
...к Лапека, а нават і клапцы калі
...іць у сваты да начальнікавай
...кі то бяруць начальніка за свата
...лепш ішло дзела.
...сьніка так высока паставілі
...то усе мусяць яму патчыняцца

# Мемарыяльны бронзавы медаль асацыяцыі слонімскіх яўрэяў

Сёлета споўнілася 25 гадоў з часу выпуску мемарыяльнага медаля асацыяцыі слонімскіх яўрэяў. Нашы землякі, якія апынуліся ў Ізраілі, выпусцілі яго ў памяць пра яўрэяў Слонімшчыны, якія трагічна загінулі падчас Другой сусветнай вайны. Медаль выраблены з бронзы. На адным яго баку бачым галоўную сінагогу ў Слоніме, яўрэяў, якія жылі тут на працягу стагоддзяў, дамы ў агні пажараў падчас знішчэння нацыстамі гета, яўрэя, які перажыў халакост і з'ехаў за мяжу.

Надпісы выкананы на англійскай мове і на іўрыце: "Памяць пра слонімскіх яўрэяў" і "1372 — 1942" (у гэты перыяд у нашым горадзе побач з беларусамі жылі яўрэі).

На іншым баку медаля сімвалічна выяўлены факт яўрэйскага супраціўлення гітлераўскім акупантам: рука, якая трымае стрэльбу на фоне зоркі Давіда, і надпіс: "60-я ўгодкі барацьбы яўрэяў-партызан".

На жаль невядома, колькі асобнікаў медаля было выраблена. На здымках — асобнік, які быў падараны мемарыяльнаму музею халакосту ў ЗША.

●*М. І.*













***Фота: ushmm.org***

НЕЗАБЫЎНАЕ

# Бежанства — трагічная старонка нашай гісторыі

*Працяг, пачатак у № 6-8, 2017 г.*

**Бежанцы Слонімскага павета ў Томскай губерні (1915-1916 гады)**



*Фота: nasledie-sluck.by*

128. **Касінскі Ст. Ксенаф.**, 41 год, жонка Кацярына Андрэеўна, 41 год, дзеці: Ан., 17 гадоў, Ол., 12 гадоў, Пят., 8 гадоў, Акс., 8 гадоў. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, всёцы Баранава.

129. **Кроцікаў Анд.**, 52 гады, жонка Соф'я, 48 гадоў, дзеці: Ст., 22 гады, Ан., 16 гадоў, Ів., 10 гадоў. Прыехалі з вёскі Мыслава. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

130. **Крук Лявон Як.**, з ім прыехалі яшчэ мужчын — 2, жанчын — 3. Прыехалі з Альбярціна. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

131. **Кулак Канстанцін Сямёнавіч,** 70 гадоў, жонка Матр., 65 гадоў, сын Рыгор, 45 гадоў, донка яго, 47 гадоў, унукі: Ол., 16 гадоў, Ів., 14 гадоў, Алена, 10 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

132. **Кулак Міхаіл Фаміч**, 23 гады, жонка Алена, 22 гады, дзеці: Мар., 1 год, брат Гр., 17 гадоў, сястра Соф'я, 16 гадоў. Прыехалі з вёскі Малая Кракотка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

133. **Кулак Мік.**, дзеці: Алена, Мар., Ан. Прыехалі з Міжэвіцкай воласці. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, вёсцы Н. Пакроўскае.

134. **Кулак Павел**, жонка Кацярына, дзеці: Алёна, Вольга, Іван, Марыя. Прыехалі з Міжэвіцкай воласці. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, вёсцы Н. Пакроўскае.

135. **Кулак Фама Сід.**, 43 гады, жонка Кс., 46 гадоў, дзеці: Сям., 14, Мікіта, 10 гадоў, Алена, 2 гады, Вольга, 17 гадоў, Ант., 7 гадоў, Вера, 5 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

136. **Кульба Зах. Дан.**, 45 гадоў, жонка Таццяна, 40 гадоў, дзеці: Гр., 16 гадоў, Зах., 2 гады, Алд., 13 гадоў. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў Томску.

137. **Кулішэвіч Раман Ігнатавіч**, 35 гадоў, жонка Ан., 24 гады, сястра Г., 21 год, маці Кс., 50 гадоў. Прыехалі з Міжэвіцкай воласці. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

138. **Кульчыцкі Юл. Вік.**, 45 гадоў, жонка Ганна, 40 гадоў, дзеці: Пеця, 6 гадоў, Вік., 3 гады, Зіна, 4 гады, А., 10 месяцаў. Прыехалі з вёскі Байкі. Часова спыніліся ў Томску.

139. **Куляшэвіч Ілья** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Мыслава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

140. **Куляшэвіч Мар.** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Мыслава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

141. **Лейка Ан. Ів.**, 38 гадоў, дзеці: Алена, 15 гадоў. Вольга, 13 гадоў, Ан., 8 гадоў, Ів., 8 гадоў. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў Томскім павеце, сяле Тамілава.

142. **Лепка Вал. Ів.**, 20 гадоў. Прыехаў са Слонімскага павета. Часова спыніўся ў Томскім павеце, сяле Карпысак.

143. **Літвінчук Гр. Міх.** Прыехаў з вёскі Казловічы. Часова спыніўся ў Бійскім павеце, сяле Буланіхінскае.

144. **Лось Гер. Анд.**, 57 гадоў, жонка Нат., 55 гадоў, дзеці: Алена, 23 гады, насця, 17 гадоў, Федзя, 14 гадоў. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

145. **Лось В. Ос.**, 70 гадоў, Соф'я, 16 гадоў. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

146. **Лось Клем. Ос.,** 71 год, сын Ів., 43 гады, Жонка І., 33 гады, дзеці: Мік., 10 гадоў, Васіль, 9 гадоў, Вольга, 14 гадоў. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

147. **Лупік Ант.**, жонка Ф., сын Мік.. Прыехалі са Слонімскага павета з вёскі Юравічы. Часова спыніліся ў Татарску.

*Працяг у наступным нумары.*

# Пераправа нямецкіх войск праз Шчару каля Рышчыцаў у 1915 годзе

На гэтай рэдкай паштоўцы, выпушчанай падчас Першай сусветнай вайны, бачым пераправу нямецкіх войск праз Шчару каля Слоніма 16-17 верасня 1915 года. Прынята лічыць, што наш горад немцы цалкам акупавалі 15 верасня (2 верасня паводле старога стылю), пра гэта пішуць у сваіх публікацыях практычна ўсе слонімскія краязнаўцы. Аднак гэта можа быць памылковая дата. У нямецкіх крыніцах датай захопу Слоніма найчасцей называецца 22 верасня (9 верасня паводле старога стылю) 1915 г.

Звернемся да рускіх крыніц. Вось якія зводкі з фронту змясціў у 1915 годзе часопіс “Разведчик”:

“4 верасня. На фронце ракі Шчары германцы пад прыкрыццём туману на пантонах пераправіліся праз названую раку каля фальварка Рышчыца, на поўдзень ад Слоніма…

5 верасня. На Шчары ў многіх месцах ішлі баі за пераправы. Каля Парэчча на поўнач ад Слоніма наша артылерыя разбіла непрыяцельскі пантонны мост і большую частку яго патапіла, частка праціўніка, які перапраўляўся, была ўзятая ў палон. Праціўнік, які перапраўляўся на поўдзень ад Слоніма каля фальварка Рышчыца, быў атакаваны намі. Праціўнік, утрымліваючы захопленую прастору на правым беразе ракі, панёс адчувальныя страты”.*

Атрымліваецца, што даты ў гэтых зводках амаль цалкам адпавядаюць даце на нямецкай паштоўцы. Яны пададзены па старым стылі, па новым стылі баі каля Рышчыцаў ішлі 17-18 верасня. А гэта значыць, што ў той час Слонім яшчэ не быў акупаваны нямецкімі і аўстрыйскімі войскамі. Рускія войскі працягвалі ўтрымліваць правабярэжжа Шчары.

●**Сяргей Ёрш**










*Цытуецца паводле наступнай крыніцы: http://politikus.ru/articles/7949-ee-poslednimi-slovami-stali-gospodi-spasi-rossiyu.html

# Першы ліст Сяргея Хмары пасля вызвалення з канцлагера

5 верасня споўнілася 25 гадоў з часу, калі ў Канадзе адышоў у лепшы свет наш зямляк Сяргей Сіняк (паэт Сяргей Хмара, 1905 — 1992). Ураджэнец Казлоўшчыны быў адным з самых актыўных дзеячоў беларускага нацыянальнага-вызваленчага руху ў Слонімскім павеце ў 1920-я гады. Меў схільнасць і здольнасці да нелегальнай дзейнасці. Трапіў на ўлік польскай паліцыі, неаднаразова арыштоўваўся. Адбываў тэрмін па справе Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Пасля яго падазравалі ў дзейнасці ад імя падпольнай КПЗБ, затрымлівалі, дапытвалі. У пачатку 1937 года Хмару адправілі ў канцлагер, створаны польскімі ўладамі ў Бярозе-Картузскай (цяперашняй Бярозе ў Брэсцкай вобласці). Там "перавыхоўвалі" камуністаў і нацыяналістаў — беларусаў, украінцаў, яўрэяў. Нават палітычныя апаненты прызнавалі мужнасць Сяргея Хмары за калючым дротам. Нездарма польскія ўлады трымалі яго там так доўга.

У віленскім папулярным беларускім часопісе "Шлях моладзі" нехта, хто схаваўся пад псеўданімам "Казлавец", пісаў у снежні 1937 года: "Казлоўшчына, Слонімскага пав[ета]. Малады беларускі паэт Сяргей Сіняк, жыхар нашага мястэчка, высланы сёлета ў концэнтрацыйны лагер у Картузскую Бярозу, сядзіць там ужо блізу 8 месяцаў. Старая ягоная маці за гэты час ужо некалькі разоў пісала просьбу ў Міністэрства Справядлівасьці аб звальненьне сына, падчырківаючы, што сын яе зьяўляецца адзіным карміцелем. На аднэй з такіх просьбаў сабрала яна каля 200 подпісаў жыхароў свайго мястэчка Казлоўшчыны. Да гэтага часу, нажаль, ніякія стараньні не памаглі і малады беларускі паэт далей прабывае ў Бярозе".***



На волю паэт выйшаў у пачатку лета 1938 года. Змучаны, хворы, але нязломлены. У архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца ліст, які ён у той час даслаў у рэдакцыю віленскага беларускага часопіса "Калосьсе". Ён цікавы і інфарматыўны. З ліста даведваемся, што Сяргей Хмара быў хворы на сухоты. Праз лічаныя дні ці тыдні пасля вызвалення ён ужо думаў пра выданне зборніка вершаў. Ці не з гэтай мэтай ён спрабаваў аднавіць кантакт з Максімам Танкам?

На лісце ёсць пазнакі, што яму дасылаўся "Шлях моладзі" і, магчыма, іншыя беларускія выданні. 30 чэрвеня ў "Паштовай скрынцы" рэдакцыя пісала: "С. Х.: Матарыялы атрымалі, дзякуем, у меру магчымасьці будзем выкарыстываць. Вітаем!".

У гэты нумар яны не паспелі даць інфармацыю, пра якую прасіў Хмара. Яна з'явілася амаль праз месяц, 25 ліпеня: "Звольнілі з Картускай Бярозы. Нядаўна ўлады звольнілі з ізаляцыйнага абозу ў Картускай Бярозе беларускага паэта С. Хмару[,] які быў там пратрыманы 15 месяцаў".

Хмара не выпадкова пісаў, што яму цяжка прабівацца на старонкі беларускіх выданняў. У тым жа "Шляху моладзі" ён надрукаваўся толькі ў кастрычніку 1938-га. Але гэта быў не верш, а нарыс пра маладых паэтаў Заходняй Беларусі. А артыкул "Падаць руку" рэдакцыя не наважылася друкаваць, палічыла "рызыкоўным"...

Ліст Сяргея Хмары ў рэдакцыю "Шляху моладзі" друкуецца ўпершыню. У публікацыі захаваныя моўныя асаблівасці аўтара.

**●*Сяргей Ёрш***

*Паважаны гр. Радактар!*

*21 б[ягучага] м[есяца]** вярнуўся па 15-месячны[м] сідзеньні з ізаляцыйнага лягеру ў Картуз Бярозе. Быў вельмі ўзрадаваны[,] застаўшы ў хаце перасылаемыя вамі далей "Калосься", бракуе мне толькі 2 і 3 нумара з прошлага году. Між іншым прасіў бы аб надасланні іх. З перадплатай пастараюся залатвіць як толькі змагу, бо наразе ня маю ані граша. Мушу крыху падлячыцца (сухоты). Прасіў бы даць у хроніцы нататку аб маім асвабаджэньні з Картуз Бярозы. — Падумываю аб выданні часткі сваіх вершаў зборнікам "Палескія эцюды"[.] Ці вышаў ужо 2 нумар "Калосьсяў" за гэны год? Ці выходзіць "Шлях Моладзі"? Прывітаньні!*

*Дакладаю разам некалькі старых вершаў і адзін кароценькі[,] тлумачаны*** з літоўскага. Мо' што прыдасца. Хаця я ня вельмі "ходкі" — усяго адзін свой вершык спаткаў у Калосьсях.*

*Бывайце С. Хмара*

*адрас мой Siniak Sergiusz*

*p[oczta] Kozłowszczyzna k/ Słonima*

*Будзьце ласкавы перадаць далажаную пісульку М. Танку[,] вашаму супрацоўніку.*

**Казлавец. 8 месяцаў у Картуз-Бярозе // Шлях моладзі, 1937, № 16(115), 1 снежня. С. 16.*

***Праўдападобна, ліст быў напісаны ў чэрвені 1938 года.*

****Перакладзены.*

# Сынковіцкія будаўнікі



Пісьменнік Уладзімір Арлоў і мастак Павел Татарнікаў выдалі выдатную кнігу — “Айчына: маляўнічая гісторыя. Частка 1. Ад Рагнеды да Касцюшкі” (Мінск, 2016, 223 с.). Яна разлічана найперш на дзяцей і падлеткаў, якія толькі знаёмяцца з гісторыяй нашай краіны. Але і дарослыя чытаюць яе з захапленнем. Тэкст напісаны цікава і зразумела, а ілюстрацыі проста фантастычныя!

Такія кнігі, як “Айчына…”, дапамагаюць народам, якія толькі будуюць і ўмацоўваюць сваю дзяржаўнасць, альбо жывуць пад акупацыяй, пашыраць нацыянальную свядомасць, выхоўваць моладзь сапраўднымі патрыётамі-незалежнікамі. Калі б яна з’явілася на некалькі дзесяцігоддзяў раней, эфект быў бы заўважны. Цяпер жа, у часы, калі пануе інтэрнэт, калі людзі ўсё менш і менш бяруць у рукі папяровыя носьбіты інфармацыі, ён, на жаль, не такі значны…

У кнізе звярнуў увагу на малюнак, на якім адлюстравана будаўніцтва Сынковіцкай царквы ва ўяўленні мастака Татарнікава. Атрымалася някепска. Думаю, што яшчэ неаднойчы ён будзе трапляць у кнігі, прысвечаныя гісторыі Слонімшчыны. Адзінае, што ў каментары да малюнка напісаны дзіўнаваты тэкст. Паведамляецца, што на ім адлюстравана, як ішло будаўніцтва “пры канцы XV стагоддзя”. “Існуе легенда, паводле якой у тых мясцінах — наваколлі сучаснага горада Зэльвы — князь Вітаўт збіраў сілы на змаганне з Ягайлам за вялікакняскі пасад. Пазней, праз сто гадоў, нібыта ў памяць пра гэта і была збудаваная Сынкавіцкая царква…”, — піша Арлоў. Ад такога кожны слонімскі краязнаўца схопіцца за галаву. Відавочна, што пісьменнік павярхоўна ведае і гісторыю славутай царквы, і легенду. І пры чым тут Зэльва, калі Сынковічы заўсёды былі і застаюцца ў наваколлі Слоніма, хоць і перададзеныя яшчэ савецкімі ўладамі суседняму раёну?! Навукоўцы прытрымліваюцца версіі, што храм быў пабудаваны ў XVI ст. Але Праваслаўная царква прытрымліваецца версіі, што будавалася царква ў пачатку XV ст., пры князі Вітаўце і на яго грошы, нядаўна адзначаліся 610-я ўгодкі заснавання. А яшчэ ж ёсць шматлікія графіці, якія сведчаць пра яе больш старажытную гісторыю. Крыўдна, што пра гэта не даведаюцца чытачы цудоўнай кнігі.

●***Генадзь Гурскі***

**“Слонімскі край”** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару *Сяргей Ёрш*.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**
Спасылка на “СК” пры перадруку абавязковая.